© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



ЮБІЛЕІ

# Чорнарабочыя вайны

*МАЛАДЗЕЧНА. У музеі гісторыі і беларускай літаратуры, што ў Плябані, ушаноўвалі пісьменнікаў—юбіляраў* ***Пятра Прыходзьку*** *і* ***Міколу Аўрамчыка****. Першы сваё 80—годдзе адзначыць 25 лютага, другі ўжо адзначаў 14 студзеня.*

Прывезла мэтраў на Маладзечаншчыну і арганізавала іх сустрэчу са школьнікамі, настаўнікамі, работнікамі культуры аб'яднанне дзяржаўных літаратурных музеяў краіны. У плябанскім музеі захоўваюцца асабістыя рэчы юбіляраў, чарнавікі іх твораў, выдадзеныя кніжкі.

– У нас створаная кампазіцыя "Яны прайшлі па той вайне", – гаворыць дырэктар музея Святлана Паркалава, – па ўсёй краіне мы збіраем звесткі пра літаратараў—франтавікоў. Сама прысутнасць у нас былога палітрука Пятра Прыходзькі і гвардыі радавога Міколы Аўрамчыка – гонар.

Мікола Аўрамчык:

– Раней на Маладзечаншчыне мы былі штогод. На літаратурныя сустрэчы на Купалле прыязджалі часцяком у Вязынку. Яшчэ памятаю, калі жонка Янкі Купалы выпісвала нам спецыяльны пропуск. А міліцыя забараняла ўсім скакаць праз вогнішча.

Падчас другой сусветнай вайны я быў "кацюшнікам" – абслугоўваў "Кацюшу". Мы былі чорнарабочыя вайны. Валілі дрэвы і па іх перасоўвалі, дзе было бездарожжа, гэтыя зенітныя ўстаноўкі. На сабе цягалі снарады, якія не разарваліся, бо існаваў загад іх не пакідаць немцам і не знішчаць. Двух сваіх лепшых сяброў пахаваў ля Берліна і ва Усходняй Прусіі. Таму тэма вайны – асноўная ў маёй творчасці.

Пятро Прыходзька:

– Свой першы верш я напісаў у 10 год. Маці Аркадзя Куляшова была ў нас настаўніцай (жылі мы тады ў невялікай вёсачцы ля Хоцімска). Дык вось, да сваёй матулі прыехаў сын–паэт, і мы з сябрам Васілём Прудніхавым падслухалі, як ён у пустым класе складаў верш пра каня: "Я каня заганю ў аглоблі...". У мяне дома быў таксама конь. І я склаў пра свайго Сіўку невялікі вершык.

Юбіляры чыталі свае вершы, а ў адказ сямікласніца Красненскай сярэдняй школы Каця Козел вызвалася прачытаць верш Аркадзя Куляшова. За што і атрымала ў падарунак аўтаручку ад дырэктара аб'яднання літмузеяў краіны Леаніда Хадкевіча.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



*Пятро Прыходзька.*



*Мікола Аўрамчык.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

ЦЯПЛО

# Забудзьцеся, віляйчане, на цёплую ваду

## Кацельня «Зеніта» па–ранейшым застаецца ўласнасцю завода

ВІЛЕЙКА. Паміж молатам і кавадлам знаходзяцца камунальныя службы горада. Вілейку цяплом яны забяспечваюць, строга прытрымліваюцца тэмпературнага графіка, але становяцца мішэнню скаргаў гараджан часцяком з–за работы сваіх партнёраў–завадчан.

У апошні свой візіт у раён старшыня аблвыканкома **Мікалай Дамашкевіч** загадаў за 10–дзённы тэрмін вырашыць пытанне: перадаць заводскую кацельню, якая забяспечвае цяплом амаль увесь горад, на баланс гарадскога вытворчага аб'яднання жыллёва–камунальнай гаспадаркі. Гэта аказалася невырашальным. "Зеніт" падпарадкоўваецца міністэрству прамысловасці, камунальныя службы – міністэрству энергетыкі. Калі адсутнічае ўзаемаразуменне паміж ведамствамі, то перадача і невялікай, па рэспубліканскіх маштабах, кацельні ў невялікім гарадку магчымая... толькі рашэннем Савета Міністраў. Ці прэзідэнта. Зразумела, што так высока вырашаюцца зусім іншыя пытанні.

Ведамаснага ўзаемаразумення не хапае і ў самой Вілейцы. Яшчэ ў кастрычніку пачаўся ацяпляльны сезон, аднак так і не заключаны дагавор паміж кіраўнікамі "Зеніта" і гарадскога ВА жыллёва–камунальнай гаспадаркі. Як мне сказалі, прастаўленыя пячаткі абодвух бакоў, але подпісаў няма. Так і кіруюцца дагаворам "па цяпле" яшчэ той зімы.

Камунальная гаспадарка не вырабляе, а толькі прадае "зенітаўскае" цяпло насельніцтву. Спажывец жа не ўнікае ва ўсе тонкасці справы, звычайна адразу скардзіцца на камунальнікаў: маўляў, калі грошы бераце, то і тапіце добра. "Зеніт" таксама спакою не дае: хочаце, каб тапілі добра, разлічвайцеся за цяпло своечасова.

– Мы быццам паміж молатам і кавадлам, – гаворыць галоўны інжынер ГВА ЖКГ **Анатоль Додрыкаў**.

За студзень камунальнікі павінныя "Зеніту" за цяпло 171 мільён рублёў (171 мільярд "старымі"). 100 – за снежань. Толькі 6–8% стратаў пакрываюць гараджане, астатнюю частку – арганізацыі і дзяржава.

Гаспадаром цяпла ў горадзе і раёне лічыцца начальнік цеплавой вытворчасці ГВА ЖКГ **Юрый Барадоўскі**. На яго вытворчасці 120 работнікаў.

– Мы абслугоўваем па Вілейшчыне 44 кіламетры цеплатрасы. На нашым балансе 7 кацельняў, – гаворыць цеплавік, – вугалю назапасілі 350 тон пры норме на ацяпляльны сезон 280 т. Ну, а тыя кацельні, што на мазуце, пакуль моцнага галаўнога болю не дастаўлялі.

"Галаўны боль" можа ўзнікнуць раптоўна і з–за партнёраў. Увесь мазут, што прыбывае ў горад, заліваецца ў ёмістасці "Зеніта". Там захоўваецца і паліва, набытае камунальнікамі. Калі ў завадчан узнікнуць праблемы са сваім мазутам, яны будуць карыстацца "камунальным", і не толькі для ацяплення. Інакш гарадскія шматпавярхоўкі, школы, дзіцячыя садкі застануцца без цяпла. Таму камунальная гаспадарка, як ні лічы, заўсёды ў пройгрышы.

– Безумоўна, было б зручна, каб і кацельню "Зеніта" нам перадалі, – гаворыць Юрый Барадоўскі, – у хуткім часе яна пяройдзе на прыродны газ. Ведаю, што іхнія інжынеры цяпер вучацца, як працаваць пры выкарыстанні новага віду паліва.

Пры размовах спецыялісты ў адзін голас сцвярджалі:

– Кацельня "Зеніта" ніколі не будзе ўласнасцю горада.

А гэта значыць, што, пакуль сам завод не стане моцны, не зможа ён дагэтуль укласці вялікія сродкі ў сваю кацельню. Таму летам як не было, так і не будзе ў кватэрах гарачай вады. Няма яе цяпер і зімой – пад той падагрэтай, што падаюць, нават у душы не памыешся.

– Абсталяванне там старое, патрабуе замены, – гаворыць Ю. Барадоўскі, – каб з кранаў цякла гарачая вада, тэмпература яе на выхадзе павінна быць не ніжэй за 60 градусаў. "Зенітаўцы" могуць цяпер забяспечыць толькі 44 градусы.

Нягледзячы на сітуацыю з "зенітаўскай" кацельняй, на Вілейшчыне да ацяплельнага сезона заўсёды рыхтуюцца сур'ёзна. Яшчэ вясной складаецца план мерапрыемстваў, на пасяджэнні выканкома зацвярджаецца. Ствараецца камісія, што сочыць за выкананнем. Існуе спецыяльны рахунак, на які збіраюцца грошы для набыцця паліва.

– Сёлетняй зімой працуем без нейкіх зрываў, – гаворыць Анатоль Додрыкаў, – падрыхтаваліся добра. І катлы мянялі, і спрацаваныя ўчасткі цеплансетак. Не адзін кіламетр адпрацавалі. І калі на нас скардзяцца, крытыку ўспрымаем, імкнемся аператыўна рэагаваць. Вось толькі за "зенітаўскае" цяпло мы не адказваем. А скаргі, у асноўным, наконт яго.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



*Начальнік цеплавой вытворчасці Юрый Барадоўскі (злева) і майстар кацельні пасёлка Нарача Мікалай Мядзведкаў.*



*Аператар кацельнай устаноўкі пасёлка Шылавічы Ала Дук.*



*Слесар Віктар Матрашыла (злева) і майстар Васіль Шарафановіч. Пасёлак Касманаўтаў.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

ДНІ НАРАДЖЭННЯ

*16 лютага*

75 год з дня нараджэння (1925) **І. Навуменкі**, беларускага пісьменніка і літаратуразнаўцы, акадэміка АН Беларусі.

МУЗЫКА

# Незвычайная «Калінка»

*МАЛАДЗЕЧНА. У канцэртнай зале музычнага вучылішча адбылася сустрэча з духавым аркестрам з Баранавічаў (мастацкі кіраўнік і дырыжор — магістр музыкі Васіль Прадун). Цікава і ажыўлена прайшоў канцэрт дзякуючы добразычлівай публіцы і высокаму выканаўчаму майстэрству аркестра.*

У праграмае прагучалі творы беларускіх і замежных аўтараў. Добра прынялі слухачы вядомую "Калінку" у незвычайнай аранжыроўцы В. Воўкава. Бліснуць майстэрствам і тэхнікай удалося салістам–кларнетыстам, саксафаністам, трубачам. Акрамя інструментальнай музыкі, прысутныя пачулі вакальныя творы з аркестрам, якія выканаў **Віктар Гарыленка**.

У парадку творчага абмену духавы аркестр Маладзечанскага музычнага вучылішча ў бліжэйшы час збіраецца выступіць у Баранавічах.

*Маргарыта МАКЕЙ, навучэнка тээрэтычнага аддзялення Маладзечанскага музычнага вучылішча.*

ШТО ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

# Пра ўсё патроху

*Падборка займальных інфармацый ці не самы чытальны куточак у газеце. Так было і раней. Вось займальныя факты 90—гадовай даўніны.*

У Швэцыі ёсць горад Тадахом, дзе апрача сернікаў, нічога больш не выпрабляюць. У адзін дзень іх робяць 200 тысячоў штук; а ў год – 73 мільярдоў: 300 электрычных машын рэжуць і клеюць скрынкі для сернікаў.

Да капелюшоў усіх кабет Эўропы ўжываюць пёроў ад 300 мільёнаў пташак у год.

У Аўстрыі ёсць горад Ксельбэра, у вокал каторага шмат залежоў солі; дык цэна яе такая малая, што з гэтай солі будуюць дамы і брукуюць вуліцы.

Каб чалавек, у колькі разоў болей важэ ад блахі, у столькі разоў спрытней і скакаў за яе, – то мог бы скакаць праз 100 саж. Каб павэдлуг сваёй вагі супроціў польнага коніка (траскунчыка) меў чалавек і голас, – чуваць было–б яго праз 2500 вёрст.

У Індыі гіне ад гадзін больш як 22 тысячы народу ў год.

У Афрыканскай зямлі – Конго, калі кабета заўдавее, каля сваёй хаты вывешвае на доўгай жэрдцы флаг, і пакуль яго вецер хоць крыху не надарве, – яна не мае права другі раз ісьці замуж.

На Баларскіх (Аўстралія) астравах расьце такое велізарное дрэво, што ў год дае 15 тысячоў апэльцыноў.

Найболей нюхаюць табакі ў Кітайшчыне; яе выпісваюць з Гішпаніі і чым старэйшая табака, тым даражэй плацяць. За 100–200 летнюю табаку плацяць па кольскі сотак тысячоў рублёў.

У Аўстрыі, каб абараніцца ад суслікоў (шкоднікі, што зніштажаюць засевы, крыху падобные да мышэй) выдалі болей як 30 мільёноў грошай.

Каб зняць тэлеграфные дроты ўсяго сьвета, занялі б яны ў доўжкі 2 мільёны вёрст.

Самае высокае дрэва расьце ў Аўстраліі; мае яно 186 арш. вышыні.

У Кітайшчыне, дзе як кабеты, так і мушчыны носяць доўгіе валасы, цяпер пачалі прадаваць іх. Так у 1908 годзе прадалі 7 тысячоў пудоў.

Да нядаўняга часу паперу рабілі з ануч, і цяпер лепшую паперу робяць таксама; але апошнімі часамі прыдумалі і ўжо робяць с паперы калёсы пад вагоны, бутэлькі і шмат іншых рэчэй; маюцца ешчэ рабіць мехі і ўселякую бялізну.

**Першая Беларуская Газета з Рысункамі "Наша Ніва". №49 ад 3.12.1909.**

*Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.*

АНТЫГРЫП

# Алей чайнага дрэва

МАЛАДЗЕЧНА. Каторы год "палачкай–выручалачкай" у нашай сям'і з'яўляецца алей чайнага дрэва.

Горла забалела – пару кропляў у ваду дадаць, прапаласкаць 2–3 разы ў дзень; нос заклала, прастуду падхапілі – зрабіць інгаляцыю з алеем чайнага дрэва, уцерці некалькі кропляў у нос і лоб, прыняць ванну з дабаўленнем некалькіх кропляў; трэшчыны на вуснах – дадаць некалькі кропляў ва ўвільгатняльны крэм.

У час эпідэміі грыпу – змазваць пад носам на працягу дня некалькі разоў неразбаўленым алеем, каб пазбегнуць заражэння.

Яшчэ ў 1925 годзе былі апублікаваныя работы, з якіх вынікала, што антысептычны эффект алею чайнага дрэва ў 8 разоў мацнейшы, чым у спірту. Пасля гэтага алей пачалі шырока прымяняць у Еўропе і Амерыцы пры бактэрыяльных і грыбковых захворваннях скуры і слізістых абалонак.

*Ніна САХАЦКАЯ.*



© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



ГАДАВЫ ДАХОД

# Спадчыну абклалі падаткам

*Пра неабходнасць плаціць падатак зыходзячы з сукупнага гадавога даходу рэгулярна нагадваюць рэкламныя ролікі падатковай інспекцыі, што ідуць па тэлеканалах. Аднак мала хто ведае, што ў склад падаткаабкладаемага даходу заканадаўства з гэтага часу ўключае і даходы, атрыманыя ў выглядзе спадчыны.*

Праўда, даходы, атрыманыя ў выглядзе спадчыны (няважна, па законе або па завяшчанні) мужам (жонкай) дзецьмі, бацькамі, братамі і сёстрамі памерлага падаходным падаткам не абкладаюцца. А вось унукі не будуць плаціць падаходны падатак толькі ў выпадку, калі яны з'яўляюцца наследнікамі па законе. У выпадку ж атрымання спадчыны па завяшчанні, падаходны падатак давядзецца плаціць спаўна. Нагадаем, што, у адпаведнасці з Грамадзянскім кодэксам, унукі маюць права на спадчыну па законе толькі ў выпадку смерці іх бацькоў або, як гавораць юрысты, у парадку прадстаўлення.

Асабліва цяжкая сітуацыя складваецца з атрыманнем у спадчыну кватэр: часта дзядулі і бабулі завяшчаюць свае адзіныя каштоўнасці – кватэры – унукам, спадзеючыся такім чынам вырашыць іх жыллёвую праблему. Але цяпер, атрымаўшы пасведчанне аб праве на спадчыну па завяшчанні, законапаслухмяны ўнук абавязаны паведаміць пра атрыманы даход падатковай інспекцыі і заплаціць падаходны падатак. Пры гэтым не варта разлічваць на ацэнку кватэры па старых цэнах: даючы даведку, Бюро тэхнічнай інвентарызацыі зробіць пераразлік з прымяненнем павышальных каэфіцыентаў, і цана станецца цалкам сучаснай.

Якой жа будзе стаўка падаходнага падатку? З улікам высокага кошту кватэр, атрыманы ў выглядзе такой спадчыны даход павінен быць абкладзены па максімуме і ў бюджэт давядзецца аддаць 30% – практычна, трэцюю частку. Падлічана, што для пабудовы двухпакаёвай кватэры пры сучасных цэнах сярэдняму беларусу з сярэдняй зарплатай неабходна каля 60 год. Такім чынам, толькі на выплату падаходнага падатку па атрыманую ў спадчыну кватэру давядзецца працаваць год дваццаць.

Усё гэта асабліва ўражвае на фоне пастаянна дэкларуемага ўладамі клопату аб вырашэнні жыллёвай праблемы. Закон аб падаходным падатку прадугледжвае льготы для тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў – яны пры куплі або будаўніцтве жылля не будуць плаціць падаходны падатак. Але толькі з зарплаты ці даходаў ад прадпрымальніцкай дзейнасці. Для даходаў ў выглядзе спадчыны льготаў не прадугледжана. Атрымліваецца, што калі ўнук, які мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, атрымае ў спадчыну дзядуліну кватэру, то не толькі перастане мець патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, але і вымушаны будзе заплаціць вялізны падаходны падатак.

Як жа з гэтым справы за мяжой? У ЗША, Германіі і многіх іншых краінах існуюць падаткі са спадчыны, але яны плацяцца з сумаў, якія перавышаюць нейкі мінімум, які можа дасягаць некалькіх мільёнаў долараў. І толькі наследнікі звышбагачоў накшталт Біла Гейтса павінны будуць аддаць у выглядзе падатку значную частку спадчыны. Але падаткі са спадчыны ўводзіліся на Захадзе паступова, па меры накаплення звышкапіталаў, а не кавалерыйскім наскокам, як у Беларусі. Беларускім жа грамадзянам неабходна было спачатку даць магчымасць накапіць капіталы, а не намагацца абкласці падаходным падаткам пабудаваныя некалькімі пакаленнямі кватэры.

***Ігар ДАХОДНЫ, аналітычная група "Z".***

ФІНАНСЫ

## У студзені толькі 5% наяўных грошай замянілі новымі купюрамі

На пачатак лютага толькі 5% грашовага абароту Беларусі заменена купюрамі новага ўзору. Пра гэта паведаміў журналістам старшыня праўлення Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч.

Гэты паказчык у тры разы меншы за першапачатковыя разлікі галоўнага банка краіны. Згодна з імі, у студзені новымі купюрамі меркавалася замяніць 15% грашовага абароту.

Нацыянальны банк мае намер больш актыўна ўводзіць у абарот новыя грошы. «Мы сёння не ставім задачу нарошчваць хуткімі тэмпамі аб'ёмы новых грошай, бо хочам максімальна выкарыстаць старыя. У той жа час застаецца мала часу, дзесяць месяцаў, каб спыніць хаджэнне старых грошай», – заявіў Пракаповіч.

Сярод адмоўных момантаў ўводу ў абарот новых грошай многія адзначаюць блытаніну, якая ўзнікае з-за падобнасці па каляровай гаме старых і новых купюр з розным наміналам. Аднак галоўны банкір краіны лічыць, што новыя беларускія грошы ўдаліся і па дызайне, і па ступені абароны. Пры гэтым П. Пракаповіч прызнаў, што «асобныя пытанні могуць узнікаць», але яны неістотныя.

***Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.***

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

## У суботу рэчавыя рынкі краіны будуць працаваць у поўным аб'ёме

МІНСК. Як можна было чакаць, агульнарэспубліканская забастоўка прадпрымальнікаў, якія гандлююць на рэчавых рынках, з 12 лютага будзе прыпыненая. Такое рашэнне прыняў рэспубліканскі страйкам прадпрымальнікаў.

Старшыня страйкама **Валерый Леванеўскі** сцвярджае, нібы «ўлада прызнала свае памылкі і заявіла, што яна гатова распачаць перамовы ў выпадку, калі Свабодныя прафсаюзы прадпрымальнікаў прыпыняць акцыі пратэсту».

– Мы праяўляем добрую волю і паказваем уладзе, што мы гатовыя пайсці на гэты крок дзеля вырашэння канфліктнай сітуацыі па сутнасці. Мы прадастаўляем уладам апошні крэдыт даверу і спадзяемся, што чыноўнікі ўсіх узроўняў атрымаюць урокі з гэтага страйку і спыняць рабаванне сваіх грамадзян», – падкрэслівае В. Леванеўскі.

Уяўляецца, усё ж, што далёка не ўсе прадпрымальнікі былі аднадушныя ў тым, каб баставаць. Занадта «разнашэрсныя» людзі цяпер гандлююць у кіёсках і на стадыёнах. Прычым, калі ў сталіцы (з нацяжкай – у абласных цэнтрах) яшчэ можна гаварыць пра забастоўку, то ў некаторых гарадах рэгіёна на рабочыя месцы гэтымі днямі выходзілі ўсе гандляры. Так што заяву Леванеўскага можна хутчэй расцэньваць, як палітычную. Хаця ў цэлым, на думку лідэра рэспубліканскага страйкама (трэба аддаць яму належнае ў аб'ектыўнасці ацэнкі сітуацыі), «першы этап супрацьстаяння закончыўся ўнічыю».

Па звестках БелаПАН, забастоўку, якая пачалася 1 лютага, падтрымалі ад 80 да 90 тысяч прадпрымальнікаў.

***Аддзел інфармацыі, выкарыстаныя матэрыялы БелаПАН.***

ЭКАНОМІКА

# Год цяжкіх выклікаў

*Эканамічны аналітык Яраслаў РАМАНЧУК, які падрыхтаваў гэты матэрыял, нарадзіўся ў 1966 годзе. Скончыў Мінскі дзяржаўны інстытут замежных моў і Інстытут эканамічнага развіцця Сусветнага банка. У цяперашні час — аспірант БДУ па накірунку "макраэканоміка". Тэма навуковых інтарэсаў — сацыяэканамічныя мадэлі, роля і месца дзяржавы ў працэсе эканамічнай трансфармацыі, "шэрая" эканоміка і прыватызацыя сістэмы сацыяльнага забеспячэння.*

Можна гаварыць пра 10 прынцыповых альтэрнатыў улады ў галіне эканамічнай палітыкі на 2000 год.

1. Дэвальваваць і адпусціць курс або адміністраваць і трымаць яго на "ланцугу". Дэбаты будуць ісці пра глыбіню дэвальвацыі.

2. Друкаваць дэнамінаваныя грошы з ранейшай хуткасцю або выйсці на станоўчую стаўку працэнта. Свабоднае плаванне новага беларускага рубля ў брудных адміністрацыйных водах ці валютная прывязка – вось пытанне пытанняў.

3. Правесці ўнутраны дэфолт і клірынг па даўгах прадпрыемстваў і бюджэту з узмацненнем фінансавай дысцыпліны і шырокім прымяненнем механізму банкруцтва і санацыі ці заплюшчваць вочы на сістэмную безгаспадарчасць і ратаваць "кропкавыя" праекты.

4. Бартэрызаваць або нармалізаваць грашовыя стасункі з расійскімі партнёрамі.

5. Дыверсіфікаваць гандлёвыя патокі або спадзявацца на манагамныя гандлёвыя стасункі з Расіяй.

6. Праводзіць кропкавую прыватызацыю пры захаванні "залатой акцыі" і права нацыяналізаваць любы аб'ект, нават калі ён дзяржаўны ніколі не быў, ці ствараць клас рэальных абароненых уласнікаў.

7. Імітаваць рыначнае цэнаўтварэнне ў рамках законаў і падзаконных актаў ці дазволіць спажыўцу і вытворцу дамаўляцца без пасрэдніка. Адмяніць дзяржзаказ з фіксацыяй цэн, значна ніжэйшых за сабекошт, ці даць гаспадаркам і прадпрыемствам некаторую ступень эканамічнай свабоды.

8. «Душыць» рэальны і фінансавы сектар падаткамі старога і новага ўзораў ці кардынальна перагледзець фіскальныя адносіны "дзяржава – вытворца", зыходзячы з рэальных інстытутаў, рэсурсаў і традыцый беларускага чалавека.

9. Пераводзіць насельніцтва на 100% аплаты сабекошту жыллёва-камунальных, транспартных і іншых грамадскіх тавараў (у тым ліку харчавання) ці працягваць практыку перакрыжаванага субсідавання і дапамогі не чалавеку, але прадпрыемству.

10. Пакінуць безадраснай, хаатычнай сістэму сацыяльнай дапамогі на аснове рэгулявання цэн на сацыяльна значымыя тавары, усталявання нормаў водпуску ў адныя рукі і забароне несанкцыянаванага вывазу "стратэгічных" прадуктаў харчавання ці ўручаць кожнаму беднаму ў рукі (ці пераводзіць на яго асабісты рахунак) кампенсацыйныя выплаты.

Нашыя суседзі па еўрапейскім доме маюць значна больш за нас прычын, каб радавацца. Далёка не ўсё ў іх бязвоблачна. Прыняцце многіх балючых рашэнняў яшчэ таксама наперадзе. Ці правыя, ці левыя – яны даўно зразумелі факт аб'ектыўнай рэальнасці: без інтэлектуальных, тэхналагічных, фінансавых рэсурсаў Еўропы і свету на іхніх умовах, па іхніх правілах гульні, без іхніх рынкаў збыту і гарантый эканамічнай свабоды на рынках усіх фактараў вытворчасці, уключна з рабочай сілай, – не стаць багатымі і стабільнымі, не забяспечыць гарамадзянам дастойную старасць і бязвоблачнае дзяцінства. Хіба не гэта з'яўляецца мэтай дзяржаўнай палітыкі? Хіба не для гэтага мы выбіраем уладу? Трыумф сілы пераканання над сілай прымусу – гэта прыкмета цывілізаванага грамадства. Менавіта цывілізаваны выбар належыць зрабіць беларускай уладзе ў 2000 годзе.

(***У наступным нумары будуць змешчаныя статыстычныя дадзеныя – паказчыкі інфляцыі, сярэдняй заработнай платы, вытворчасці валавога ўнутранага прадукта і інвестыцый на душу насельніцтва. Лічбы мы дадзім у параўнанні з аналагічнымі паказчыкамі нашых суседзяў па Еўропе.***).

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

## Курсы валют НБ РБ

| | 3 лютага | 10 лютага |
|---|---|---|
| Долар | 366,00 руб. | 378,00 руб. |
| Марка Герм. | 181,93 руб. | 191,98 руб. |
| Літ | 91,47 руб. | 94,52 руб. |
| Рас. руб. | 12,78 руб. | 13,18 руб. |
| Злоты | 86,00 руб. | 91,41 руб. |
| ЕЎРА | 355,83 руб. | 375,49 руб. |

### «Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 880 – 920 руб. | 870 – 890 руб. |

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) | |
|---|---|---|---|
| | | 02.02 | 09.02 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 980 | 980 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 3600 | 3700 |
| Сасіскі | 1 кг | – | 1166 |
| Селядзец салёны | 1 кг | 680 | 680 |
| Рыс | 1 кг | 380 | 400 |
| Грэчка | 1 кг | – | 560 |
| Цукар | 1 кг | 258 | 255 |
| Алей | 1 л | 700 | 650 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 405 | 405 |
| Маянэз | 250 г | 160 | 160 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | – | 320 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 220 | 210 |
| Лімоны | 1 кг | 920 | 920 |
| Апельсіны | 1 кг | 625 | 650 |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 190 | 200 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 500 | 500 |
| Масла | 1 кг | 1200 | 1200 |
| Тварог | 1 кг | 500 | 600 |
| Малако | 1,5 л | 200 | 200 |
| Бульба | вял.вядро | 750 | 800 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 450 | 550 |
| Яблыкі | 1 кг | 400 | 400 |
| Капуста | 1 кг | 180 | 130 |
| Морква | 1 кг | 280 | 300 |

ДАВЕДКА «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ»

## Расклад руху прыгарадных аўтобусаў

*Адпраўленне з Маладзечна*

### *Валожынскі напрамак*

**Падлесная** ........ **7–15, 13–30, 14–30** (суб., нядз.)
**Палачаны** ........ **6–00**
**Соўлава** ........ **7–40, 11–40, 15–10**
**Валожын** ........ **5–25, 7–03, 9–16** (суб.–нядз.), **10–50, 14–00, 16–47, 17–30, 18–30** (пятн., вых)
**Валожын** (праз Хоўхлава) **9–30, 14–50** (суб., нядз.)
**Станц. Валожын** ..... **9–00** (суб., нядз.), **15–30** (пятн., вых), **19–35** (суб., нядз.)

### *Вілейскі напрамак*

**Вілейка** ........ **5–10, 6–30, 7–40, 8–40, 10–15, 11–00** (пятн., вых.), **11–50, 13–15, 14–15, 16–00, 17–00** (пятн., вых.), **17–45, 18–50** (пятн., вых.), **19–40**

### *Лебедзеўскі напрамак*

**Клочкава** ........ **7–15, 14–05, 17–10**
**Беніца** ........ **5–35, 9–30** (па вых. – на Сенькі)
**Маліноўшчына** ........ **6–08, 7–25, 8–55, 12–30** (суб., нядз.), **13–30, 16–30, 17–55**
**Хатуцічы** ........ **6–50, 14–40**
**Вугляны** (пан., аўт., чацв.) **6–40, 13–00, 18–40** (да Беніцы)
**Дохны** (серада) ........ **6–40, 13–00, 18–40**
**Рымцелі** (пятн.) ........ **6–40, 13–00, 18–40** (да Крэва)
**Баруны** (суб.) ........ **6–40, 13–00** (да Рымцеляў), **18–40** (да Рымц.)
**Баруны** (нядз.) ........ **6–40, 13–00, 18–40** (да Рымц.)

### *Красненскі напрамак*

**Радашковічы** (праз Гранічы) **6–30, 14–20**
**Ілья** ........ **5–20**
**Краснае – Ілья** ........ **8–15, 14–35, 17–30** (адпраўл. з Краснага), **19–20** (пятн.), **12–15** (вых.), **19–20** (вых.)
**Пас. Партызанскі** .... **15–40** (пятн.), **8–30** (суб., нядз.); **Краснае – пас. Партызанскі 16–30** (вых.)
**Свечкі** ........ **5–50**
**Дубрава** (суб.) ........ **5–50**

### *Вязынскі напрамак*

**Паняцічы** (пан.–пятн.) ..... **5–20, 12–15, 17–35** (Вязынь), **17–35** (Ярмолічы, пятн.)
**Паняцічы** (вых.) ........ **5–20, 9–25, 14–45, 19–20** (Ярмолічы)
**Вязынь** ........ **15–20** (пятн.), **18–50** (Паняцічы, пятн.), **7–50** (Ярмолічы, вых.), **13.40** (вых.)

### *Хажоўскі напрамак*

**Гердуцішкі** ........ **7–20** (вых.), **15–30** (пятн., вых.), **19–10** (пятн.)
**Пранчэйкава** ........ **6–45, 13–10, 18–40**
**Пятроўшчызна** ........ **5–30, 14–10** ( у пятн. – да Гарадка)
**Дарахі** (пан.–пятн.) .. **8–00, 17–40**
**Дарахі** (вых.) ........ **5–30** (да Гарадка), **8–00, 14–10, 17–40**
**Кулеўшчына** (вых.) .. **6–40, 15–00**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Дарога дамоў з дня нараджэння

МАЛАДЗЕЧНА. 7 лютага жыхар Маладзечаншчыны шырока адзначаў у вёсцы Аборак дзень нараджэння свайго сябра. Калі прыйшоў час ехаць дадому, то ён ужо быў добра "загружаны" спіртным, але свой шлях усё ж працягваў.

Дабраўся да станцыі Палачаны, сеў у дызель "Маладзечна–Ліда", але забыўся пры гэтым узяць білет. Па просьбе кантралёраў–рэвізораў вымушаны быў пакінуць цягнік на наступным прыпынку, але вырашыў прайсціся па чыгуначных пуцях да Беразінскага. Паколькі ўздоўж чыгункі лаўкі не ўстаноўленыя, то "заяц" прысеў на рэйкі, дзе і заснуў.

Машыніст наступнага дызель–цягніка, што ішоў на Ліду, убачыў чалавека на рэйках, прымяніў экстраннае тармажэнне, але прадухіліць наезд не змог. У выніку бацька малалетняга дзіцяці з цяжкімі цялеснымі пашкоджаннямі папаў на лячэнне ў траўматалагічнае аддзяленне Валожынскага ТМА.

Мараль: сеў у цягнік – вазьмі білет, "узяў лішку на грудзі" – сядзі дома.

***Сяргей ВАСІЛЕВІЧ, начальнік аддзялення грамадскай бяспекі і прафілактыкі Маладзечанскага АУС на транспарце.***



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019


АРХІВАРЫУС

# Напісанае – застаецца. У архіве

***МАЛАДЗЕЧНА. У пэўных абставінах папера, якая нясе цікавую, карысную інфармацыю, мае шанец трапіць у разрад дакументаў. Супрацоўнікі занальнага дзяржаўнага архіва ў Маладзечне пераканаліся ў гэтым на шматлікіх прыкладах.***

У архіў звяртаюцца з адной мэтай – атрымаць неабходную даведку. Далей інтарэсы наведвальнікаў могуць не супадаць: нехта на падставе здабытых папер збіраецца вырашыць на сваю карысць маёмаснае пытанне, хтосьці – набыць грамадзянства Рэспублікі Беларусь, іншы – вярнуць добрае імя рэпрэсіраванаму сваяку...

Асабліва шмат апошнім часам запытаў ад прымусова вывезеных у час акупацыі ў Германію. У абсалютнай большасці яны задавальняюцца – супрацоўнікі архіва па ўласнай ініцыятыве адшукалі неабходныя дакументы ў Маскве.

Цяпер у сховішчах архіва налічваецца звыш за 240 тысяч спраў – ад пазначаных "ожэлам бялым" дакументаў польскага часу (1919–1939 гг.) да нашай пары. Апошнім найбольш цікавым і аб'ёмным паступленнем сталі афіцыйныя паперы ліквідаванага нядаўна Вілейскага гарвыканкома, яго аддзелаў і ўпраўленняў.

– Галоўная задача дзяржаўнай архіўнай службы, – даводзіць дырэктар архіва **Расціслаў Герасімовіч**, – захаванасць дакументаў, іх выкарыстанне, кантроль за архівамі і справаводствам у арганізацыях і ўстановах. Але мы на першы план ставім работу з людзьмі, аказанне ім канкрэтнай дапамогі. Праўда, дапамога гэтая можа выражацца не толькі ў афармленні даведак, але і ў публікацыі найбольш цікавых звестак у газетах, часопісах, а то і ў асобных, наўмысна падрыхтаваных зборніках. Адным з іх стала кніжка пра рэпрэсіі сталінскіх часоў у нашым рэгіёне "Злітуйцеся!". Цяпер, сумесна з Нацыянальным архівам, вядзецца работа над зборнікам дакументаў перыяду калектывізацыі. Зноў жа, на фактычным матэрыяле Маладзечанскага архіва і Нацыянальнага архіва РБ. Ужо сёлета ён павінен пабачыць свет.

Перапрацаваць такі аб'ём дакументаў, знайсці належнае месца кожнай паперцы, нічога не згубіць і нікога з наведвальнікаў не пакрыўдзіць могуць хіба што жанчыны. Яны і працуюць (за выключэннем дырэктара) у архіве. Прычым, па многа гадоў – **Валянціна Міцюра, Надзея Карнілава, Вольга Лявоненка, Лія Пагуда, Галіна Казура, Нэлі Калтакова, Наталля Іванова...** Адданыя сваёй справе людзі. І нішто – ні высокія заработкі, ні цяжар турэмных муроў, у якіх месціцца архіў, – не ў стане разбурыць трапяткія адносіны да некалі выбранай прафесіі.

Дарэчы, цікавасць у архівістаў выклікаюць не толькі афіцыйныя паперы. Хто ведае, можа, для нашчадкаў асабістае пісьмо з аўтографам сёння вядомага чалавека будзе ўяўляць куды большую каштоўнасць, чым сухія радкі статыстычнай справаздачы, складзенай з улікам палітычнай сітуацыі ў краіне. Па гэтай прычыне супрацоўнікі занальнага дзяржаўнага архіва ў Маладзечне выказваюць жаданне працаваць не толькі з дзяржаўнымі ўстановамі, але і з прыватнымі асобамі – былі б толькі ў іх цікавыя матэрыялы.

*Віталь ПАШУК.*

***P. S. Сёння супрацоўнікі архіва адзначаюць 60–годдзе сваёй установы. Стваральнікі і чытачы "РГ" віншуюць іх з адметнай падзеяй і жадаюць далейшых поспехаў у захаванні гістарычнай памяці беларусаў.***

14 ЛЮТАГА – ДЗЕНЬ ВАЛЯНЦІНА

# Традыцыі святкавання дня святога Валянціна

Першы ўспамін пра святочныя мерапрыемствы, прымеркаваныя да дня святога Валянціна, сустракаецца ў "Кентэрберыйскіх расказах" Джэфры Фостэра. У Англіі гэтае свята афіцыйна адзначаецца з 1532 года, калі кароль Генры VIII выдаў наконт дня святога Валянціна спецыяльны дэкрэт. У ЗША адзначаюць гэтае свята з 1777 года.

У Сярэднявеччы распаўсюдзілася традыцыя складаць да дня святога Валянціна музычныя падарункі. Гэта былі серэнады, якія ўслаўлялі годнасць абажаемай асобы. Потым традыцыя змянілася ў бок больш іранічных, сентыментальных, а часам, і злых твораў. А ў эпоху Адраджэння серэнады зніклі наогул.

Цяпер 14 лютага з'яўляецца адным з самых лірычных святаў ва ўсім свеце. На шчокі наклейваюць сэрцы і зорачкі, без усялякага сораму тэлефануюць любімым выкладчыкам і настаўнікам, ходзяць у абдымку, абменьваюцца пацалункамі, наогул, паводзяць сябе гарэзліва.

У ЗША штогод перасылаецца каля 1 мільярда паштовак з віншаваннямі, а пошта, адпаведна, атрымлівае прыбытак у памеры каля 1 мільярда долараў. Прадаўцы кветак прадаюць 60–70 мільёнаў ярка–чырвоных руж (22–24 тысячы руж у хвіліну). Колькасць электронных пасланняў у Internet 14 лютага ідзе на мільёны.

У Англіі значная колькасць "валянцінак" ананімная: яны не маюць зваротнага адрасу, напісаныя справа налева ці левай рукой. Так прынята, каб надаць загадкавасць. Таму пасля 14 лютага прыватных дэтэктываў літаральна засыпаюць заказамі на выяўленне асобы адпраўшчыка.

Рым прапануе ў Сан–Валянціна забавы на любы густ. Танцы пад музыку, піца, меса ў храме Святога Валянціна, сустрэчы са знакамітымі кінарэжысёрамі і пісьменнікамі – усё для закаханых. Уся атмасфера Вечнага горада быццам гаворыць: нават калі ты не закаханы, стань ім хаця б на адзін дзень.

Важным атрыбутам іспанскіх традыцый з'яўляюцца падарункі. Гэта могуць быць кветкі (большай часткай, гваздзікі), цукеркі, простыя ювелірныя ўпрыгожанні. Дораць, у асноўным, мужчыны; прадстаўніцам прыгожага полу таксама не забараняецца дарыць што–небудзь, але гэта неабавязкова. Калі дама адказвае падарункам свайму паклонніку, то гэтым дэманструе сваё прыязнае да яго стаўленне.

Японцы, наогул, падышлі да 14 лютага вельмі арыгінальна:ператварылі яго ў "8 Сакавіка для мужчын". Падарункі тут атрымлівае моцны пол.

У Беларусі нічога падобнага няма, бо савецкі час знішчыў усе традыцыі па святкаванні дня святога Валянціна, што былі, прынамсі, у Расійскай імперыі. Але ёсць станоўчыя зрухі: дзякуючы мінулагодняму шоу на самы масавы пацалунак, што праводзілася ў Мінску, пра гэтае вядомае ў Еўропе свята даведалася шмат землякоў. І калі вы задумалі ўсё ж адзначыць яго, то гульня прызначэння Валянціна і Валянціны будзе дарэчы.

У два капялюшы кладуць паасобку запіскі з імёнамі ўсіх прысутных жанчын і мужчын, уключаючы дзяцей і немаўлятаў. Потым аднačасова выцягваюць па паперцы з розных капялюшоў, і асобы, што трапілі ў пару, абвяшчаюцца да наступнага свята Валянцінам і Валянцінай – закаханымі. Розныя недарэчнасці і кур'ёзы, якія даволі частыя, выклікаюць толькі весялосць. Тым не менш, Валянцін усё адно павінен быць галантны са сваёй дамай і што–небудзь ёй падарыць.

Вядома, можна шмат чуць і ведаць нават пра самае прыгожае свята. Але паспрабуйце яго адзначыць, магчыма, вам спадабаецца. І няважна, возьмеце вы за аснову еўрапейскія або амерыканскія традыцыі ці прыдумаеце свае. Галоўнае, каб гэта свята доўжылася для вас усё жыццё.

*Вадзім ЗУБРЫЦКІ, студэнт III курса геафака БДУ.*

САЛДАЦКАЯ ПОШТА

# Вестачкі ад салдат, што служаць у Маладзечне



Малодшы сяржант **Генадзь Бохан**, тэхнік станцыі, грамадзянская прафесія – токар.

Мае трэці разрад па лёгкай атлетыцы. У складзе школьнай гандбольнай каманды заваяваў трэцяе месца на абласных спаборніцтвах, якія праходзілі ў Слуцку. Спроба паступіць у Акадэмію фізвыхавання аказалася няўдалай.

*Мінская вобласць, Вілейскі раён, пасёлак Партызанскі, вуліца Гастэлы.*

– Шчырыя прывітанні родным і сябрам. Асабліва салдатам Руслану Слізаўскаму і Анатолю Забаронку, якія служаць у іншых вайсковых часцях. Мы разам прызываліся. Віншую з днём нараджэння сястру Алесю (24 лютага) і цёцю Наташу (11 красавіка).

3–гадоваму брацiку: "Юрык, жадаю табе моцнага здароўя. Не хварэй".

Маме: "Вялікі дзякуй за тое, што выгадавала мяне. Ведаю, табе са мною было нялёгка. Цяпер я пасталеў і зразумеў, што ты ў мяне адна".



Радавы **Аляксандр Чымкоўскі**, старшы трапасферны механік (на грамадзянцы таксама механік).

*Віцебская вобласць, Докшыцкі раён, вёска Літоўцы.*

– Прывітанні родным і ўсім, хто мяне ведае. Чакайце, летам буду дома. Сябра Юрыя Баброўскага віншую з днём нараджэння (17 лютага). Дзякую старшаму лейтэнанту Вячаславу Супрановічу, які з павагай ставіцца да салдат.

Алесю Касцюковічу: "Сябра, ты пайшоў у арімю. Не палохайся службы. Усе сапраўдныя мужчыны прайшлі праз гэта. Я спачатку таксама не хацеў ісці ў армію, але цяпер не шкадую, што апынуўся тут".



Малодшы сяржант **Андрэй Трухан**, камандзір аддзялення вадзіцеляў (на грамадзянцы – аўтаслесар).

*Мінскі раён, пасёлак Самахвалавічы, вуліца Калініна, 59*

– Прывітанні бацькам, сябрам і каханай Вользе. Жадаю ім усяго найлепшага ў жыцці, здароўя. Віншую сястру Таню з днём нараджэння.



Яфрэйтар **Дзяніс Бажко**, старшы лінейны назіральнік. Плануе застацца на кантрактную службу. На грамадзянцы працаваў у брыгадзе хуткай псіхіятрычнай дапамогі.

"Провады прайшлі ў псіхушцы", – жартуе Дзяніс.

*Маладзечна, вуліца Крынічная, 13–55.*

– Прывітанне сябрам Юрыю і Андрэю. Апошняга віншую са шлюбам. Бацькам жадаю здароўя.

Каханай дзяўчыне Алене: "Лена, чакай мяне, і я вярнуся".

*Вестачкі рыхтавала Юлія ВАНСЛАЎ.*

ФОТА ЮЛІІ ВАНСЛАЎ.

«РГ»–СТАТЫСТЫКА

# Пра ашмянскіх дзяцей, мацярок і жаніхоў

***АШМЯНЫ. За мінулы год у раёне нарадзілася 409 дзяцей. 9 жанчын сталі маці ва ўзросце да 18 год; 170 немаўлят нарадзілі жанчыны ва ўзросце ад 21 да 25 год; 110 – ад 26 да 30.***

## У вёску за жаніхамі

Часцей, вядома, нараджаюць 20-, чым 30-гадовыя. Так усяго 53 жанчыны, якім за 30, нарадзілі дзяцей. Затое ва ўзросце ад 18 да 20 сталі маці 67 маладзіц.

Самай "старой" маці раёна 42 гады.

37 немаўлятак народжаныя маці-адзіночкамі. На раёне хлопчыкі нараджаюцца часцей, чым у горадзе.

## «Любви все возрасты покорны»

Самыя маладыя жаніхі – 15–гадовыя, а самаму старому – 78. Не палохае закаханых і розніца ва ўзросце. Так, у адной пары, што брала шлюб, жаніх быў на 16 год старэйшы за нявесту. Рэкордная розніца ва ўзросце, калі яна старэйшая за яго, – 10 год.

З 274 зарэгістраваных шлюбаў 60 – паўторныя.

## Саманты як наступства серыялаў

Самыя папулярныя імёны немаўлятаў у хлопчыкаў – Дзмітрый (24 немаўляткі) і Аляксандр (20). Далей ідуць Андрэй (13), Аляксей (13), Ігар (10).

Сярод дзяўчынак папулярныя імёны Анастасія (22), Кацярына (13), Вікторыя (13).

З'явіліся Саманты, Дыяны, Эвеліны. Зусім рэдкім стала імя Пётр.

*Святлана ВЯЛЬСКАЯ.*

КНІЖНАЯ МАЗАІКА

# «Беларускі кнігазбор»

Кніжная серыя "Беларускі кнігазбор" папоўнілася новым томам. Гэта **"Выбраныя творы"** народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля. Чаму кніга сучаснага пісьменніка выйшла ў шматтомным выданні літаратурнай спадчыны Беларусі, у серыі класічнай літаратуры? Ды таму, што Янка Брыль – прызнаны класік беларускай літаратуры, творы якога даўно сталі нацыянальным набыткам нашага народа.

У кнізе сабрана ўсё самае значнае, самае "мастацкае", што выйшла з-пад пяра гэтага чараўніка роднага слова – аповесці "Ніжнія Байдуны", "Золак, убачаны здалёк", "Муштук і папка", лепшыя апавяданні, эсэ і жамчужыны нашай прозы – мініяцюры Я. Брыля.

Пра творчасць і жыццёвую дарогу Янкі Брыля грунтоўна і цікава расказаў ва ўступным артыкуле "Думаючы пра вечнае, бачыць штодзённае" крытык, кандыдат філалагічных навук Серафім Андраюк. Выдатна дапаўняюць біяграфію пісьменніка фотаздымкі розных гадоў.

Кніга выйшла ў новым выдавецтве "Беллітфонд".

*Аддзел інфармацыі.*

**"Комментарий к Гражданскому кодексу Республики Беларусь"**, кн. 2. Выдавецтва "Амалфея", 1999 г. 4510 рублёў.

**"Хозяйственный процесс в Республике Беларусь"**. В. Камянкоў. В. Жандараў. Выдавецтва "Амалфея". 830 руб.

Метадычны дапаможнік **"Тесты по литературе. 5 класс"** В. Караушкінай. Выдавецтва ЗАТ "Тэхнаперспектыва". 456 руб.

Выдавецтвам "Беларусь" выпушчаныя:

П. Краўчанка. **"Абраннікі вечнасці"**. Два раздзелы: "Подзвіг Скарыны", "Паланез надзеі". Кніга выдадзеная на беларускай, рускай, англійскай і італьянскай мовах. 908 руб.

**"Папа, мама, я – здоровая семья"**. Медыцынскі даведнік для бацькоў. Складальнік С. Тен. 846 руб.

**"Телевизоры Горизонт (5 УСТЦ), Panasonic: ремонт, регулировка"**. Б. Даніленка. 234 руб.

*Кнігарня "Спадчына". Маладзечна, вуліца Прытыцкага, 7.*


© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

